БЕЛАРУСКАЯ

# ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Востра-Брамская, № 9.

Год I. Пятніца, 16 мая 1919 г. № 9.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць каліўца часу пахваліцца сваімі мястовымі, мясьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— ніхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю (аўторак, чацьвер і нядзеля — з 8 да 11 гадзіны раніцы; іншыя дні — з 8-й да 1-й гадзіны; у пільнай патрэбе — можна абы-калі).*

*У-вечары бывае рэдакцыя у друкарні.*



## Прауленьне профэсыанальнага саюзу юрыстау.

просіць прыбыць сваіх сябраў (членаў) на агульнае сабраньне, што будзе ў нядзелю 18 г. м. у кватэры рэента Канашынскага на Вялікай вул. № 36 у 5 гадзін папалудні дзеля разгляду справы аб аднаўленьні працы профэсыянальнага саюзу б. камісарам судоў Казлоўскім.

Старшыня **Андрэеу.**

*Вільня, 15—V—19 г.*

Як мы даведаліся, незабавам Віленская Беларуская Рада мае склікаць агульны сход беларусаў, жыхароў Вільні.

Ня можна ня згодзіцца, што патрэба у гэткім сходзе надта вялікая і калі яго дагэтуль, пасьля бальшавіцкага панаваньня, ня было, дык толькі дзеля розных прычын агульна-палітычнага і іншага характару.

Віленскія беларусы арганізаваны слабей за ўсіх нацыянальнасьцяў.

Беларусы ня маюць цьвёрда пастаўленай і шырока разьвітай кооперацыі; у іх німа моцных арганізацыяў эканамічнага характару; палажэньне беларускай школы у Вільні самае мізэрнае; дзеці беларускай бядноты гадуюцца ў няродных прытулках і узрастаюць міма сваей волі чужынцамі для свайго народу і навет свайго стану і клясу; сярод безработных і галадаючых жыхароў места надта многа беларусаў, асабліва спаміж інтэлігенцыі, і помачы яны ня маюць і доўга ня будуць мець, калі віленская беларуская грамада доўга будзе гэткай жа нядбайлівай, як і дагэтуль.

Мы ведаем, што віленскія беларусы ня былі гаранціраваны ад уселякіх неспадзеваных крыўдаў нацыянальнага характэру, як адабраньне беларускіх мураў, беларускіх бібліятэк і да таго падобных.

Мы ведаем, што беларусы-каталікі, шукаючы штодзеннага кавалка хлеба, часам мусяць кідаць беларускую работу, бо яна не дае матэрыяльнай абасьпекі, і працаваць на чужой, буйнейшай ніве.

Мы ведаем, што іншыя беларусы-праваслаўныя, носяць глыбока у сэрцу жаль, што іх свае-ж сьвядомыя браты-беларусы, як каталікі так і праваслаўныя, з пагардаю далучаюць часам да нейкіх „мураўёўцаў“.

І мы ведаем, што і сярод трапіўшых у сеткі „мураўёўшчыны“ пэўне ёсьць людзі, нацыянальная маральнасьць каторых шчэ не папсована да канца рознымі апякунамі, быўшымі чарнасотніцкімі губэрнатарамі і маршалкамі шляхты, што і ў іх калі-калі ды кроіцца смуткам змаскаленае, але беларускае сэрца за усё тое, што дзеецца наўкола з родным краем і з родным народам.

І да нас саміх прыходзяць цяпер, як змучаная растаропіцаю падарожныя на цяпло сярод цёмнай ночы, прыходзяць усе гэныя „палякі“ і „рускія“ шукаць беларускай рады і помачы.

І сорамна ім, і прыкра нам, што толькі ў бядзе і нядолі прыходзяць да нас і лічуць за патрэбу „ламаць“ язык на родную мову, каб цаказаць, што каліўца роднага нам яшчэ маюць яны і за тое варты нашае помачы і рады.

Прыходзяць і просяць, каб вызвалялі сваіх з турмы, каб ратавалі сваіх ад галоднай сьмерці, каб прыймалі у сваё беларускае войска.

І баліць ім, і баліць нам, што позна шчупянуліся, хапіліся за розум і пракапаліся...

Усяму гэтаму павінен быць канец.

Беларуская грамада павінна быць дапраўды грамадою, у якой знайшоў бы сваё мейсца кожны, у кім яшчэ б'ецца беларускае сэрца. Яна павінна быць грамадою, каторая зможа абараніць свое нацыянальныя і клясавыя патрэбы і, згодна працуючы поруч з людзьмі і грамадамі іншых нацыяў, пралажыць шлях да сьветлага жыцьця усяму чалавецтву.

Сярод нашай грамады не павінна быць і ня будзе ахвотнікаў панаваць над братам-чалавекам, бо мы добра ведаем смак панскага уціску і няволі, мы яшчэ ад бацькоў сваіх **чуем**, што гэта была за доля праклятая, калі польскія і рускія паны мелі беларускі народ за быдла, за адну сучку плацілі сотняю падданых, засекалі бізунамі, гвалтавалі, вываpачвалі душу, накідываючы сваю панскую веру і сваю панскую мову.

У нашую грамаду прыдуць усе, хто ня хоча уціску нацыянальнага ці клясавага і хто хоча змагацца за свае правы, добра ведаючы, што найлягчэй змагацца грамадою.

Дужа цікава, а хто ж прыдзе на сход, што будзе склікаць Віленская Беларуская Рада?

Ці прыдуць тыя „палякі“ што упіліся хмелем польскага посьпеху у апошнія часы і стыдаюцца сваей беларускай бяздольнасьці і уважаюць, што ужо німа чаго клапаціць аб доле свайго бяздольнага брата-беларуса, які не аднэй з ім веры ці не аднэй заможнасьці і дужасьці?

Ці прыдуць тыя „рускія“ што цяпер у найгоршым прававым палажэньню сярод жыхароў места, што жывуць на палажэньню чужаземцоў-эмігрантаў ва ймя незразумелай нам угоднасьці да былых катаў краю з маскоўскага боку?

Мы, сьвядомыя нацыянальна і клясава віленскія беларусы, бяз рожніцы веры, можам сказаць ім пабрацку, што нам цяжка несьці крыж адраджэньня беларускага народу, хоць мы з радасьцю нясём яго; што мы, аднак без асаблівай шкоды адхілімся ад тых „сьвядомых“, што „адраджалі“ народ па панску, што былі панамі-дыллетантамі у вялікай сьвятой справе; і што мы надта рады бываем, калі найбольш сумленныя, найбольш духоўна разьвітыя натуры спаміж „палякоў“ і „рускіх“ ідуць да нас і з нашай радасьцю нясуць з намі крыж...

N.

## Нялюдзкі гвалт.

Шкада, што навука аб народнай псіхалёгіі, водле якой можна было б вылічаць, што зробіць той ці іншы народ, тое ці іншае гаспадарства у вядомую пару свайго палітычнага і сацыяльна-эканаміцкага палажэньня, што гэтая навука пакуль што надта малая.

Іначай можна было б напэўна ведаць, што выйдзе з міру, які Антанта накідывае немцам, што зробяць немцы, каб не дацца у поўную загубу адзічэламу варожаму ля іх імпэрыялізму хаўруснікаў-пабядзіцеляў.

Аднак, бяручы пад увагу гістарычную практыку саўсім жа недалёчкай прошласьці, калі імпэрыялізм нямецкіх крывасмокаў душыў гэткім жа „мірам“ селянска-рабочую грамаду народаў б. Расейскай імпэрыі, можна пашкадаваць, што палітыкі Антанты могуць перасаліць усю кашу на вялікую шкоду і немцам, і сваім народам, і ўсяму сьвету.

Бывае, што саўсім слабы ці змучаны чалавек ад вялікай абразы набірае незвычайнай моцы і вялікасьці або робіць саўсім неспадзеваныя рэчы.

Чым гарантавана Антанта, што у Германіі ня зьявіцца раптам і гэта моц, і гэта вялікасьць народнага духа, і яшчэ штось вельмі неспадзеванае?

Тым барджэй, што у ва ўсіх на памяці салодкія гутаркі аб праве і справядлівасьці, згодзе і прыязьні, што цяпер гэтак перакручаныя.

Як ні здурэў быў германскі народ ад шовіністычнага чаду, як ні дзівіў увесь сьвет сваім нячаканым дзікунствам і барбарствам, аднак жа, уважаючы на тое, што ён апамятаўся, што ён зрабіў рэвалюцыю, што ён галадае і мучаецца да анархіі, што ён мае чалавецкія правы,—ня можна крыўдзіць яго!

Будзе нялюдзкі гвалт, калі мір Антанты будзе накінуты яму.

Будзе надоўга, надоўга неспакой на сьвеці.

І адно дзіва, як гэта палітыкі не набіраюцца розуму, маючы прыклады перад вачмі, і робяць тыя самыя памылкі.

## З пісьма у рэдакцыю.

*Вільня, 13-га мая 1919 г.*

Даруйце мне, што на першай парэ пішу да Вас не пабеларуску, але, бачыце, я толькі летась перад восеньню саўсім выпадкова даведалася, што разумею пісанае „у гэтай беларускай мове“, каторай я, узросшы ў Вільні і бавячы доўга на Украіне, ніколі навет ня чула.

Але я ўмею шэсьць моў і грунтоўна знаёма з гісторыяй, а таму люблю наш край і усёй душою жадаю яго адраджэньня пасьля толькіх вякоў нядолі і пяволі!

Працуючы лля рэдакцыі нямецкай газэты, я летась пераклала з украінскага цікавую брашуру Багдановіча[1]) аб адраджэньню Беларусі і толькі з яе даведалася аб беларускім руху; апрача таго, я пераклала і два дзесяткі бекарускіх народных казак (да прыкл. *Бог у гасьцех)* і некалькі дзесяткаў кароткіх, крыху гумарыстычных апавяданьнаў з журнала „Наша Ніва“, але да гэтай пары я ня маю граматыкі а ні якога іншага рукаводзтва да наўчэньня формам і зваротам беларускай мовы; бяз гэнага ня важуся пісаць, бо рабіць памылкі ня жадаю.[2])

З учарашняга вашага зваротку да жыдоўскай інтэлігенцыі[3]) я бачу што Вы далёка ад вузкага шовінізма і фанатызма і ня грэбуеце нічыёю сымпатыяй.

Дзед мой з боку бацькі быў выходцам з вольнага места Любека, а прадзед мой па матцы паходзіць са Швэцыі; але, немка па раджэнью, я узрасла і ўзгадавана ў Расіі.

У часе пастыднага ля культурнага народу валадарства у нас прусакаў, душа мая адхілілася ад немцаў, і у апошняй анкеце я сябе назвала *беларускай.*[4])

Гэта з майго боку сьвядомы пераход на бок тубыльнага насяленьня, катораму ня ведаючыя ці нежадаючыя ведаць яго гісторыі лічуць за загану, што яно складаецца толькі з мужыкоў і навет ня мае сваё інтэлігенцыі. Быць можа і праў аўтор стацьці „Białoruś polska“[5]), што усіх беларусаў у Вільні можна зьмесьціць на аднэй канапе, і калі яны захочуць гаварыць аб сваіх нацыянальных дамаганьнях, дык мусяць ужываць рускай ці польскай мовы; але у пераходны час справа ня ў мове, а ў пераканаьнях.[6])

Я не аднакраць мела выпадак праканацца, што ніжэйшыя малаграматныя клясы у Вільні да вайны ня мелі ніяка-

---

[1]) Максім Багдановіч — адзін з лепшых новых беларускіх паэтау, супрацоунічау у украінскіх часапісах, памер ад сухот 12-га мая 1917 года у Ял-це. (Рэд.).

[2]) Беларускую граматыку (лац. і кірыл. прыв.-дац. Б. Тарашкевіча ці бел. грам. вучыцеля Пачопкі [лац.), слоунікі, правілы цравапісу (Луцкевіча і Станкевіча) і іншыя падмогі можна дастаць у кнігарні Бел. Выд. Тов. — Завальная, 7. (Рэд.)

[3]) Гл. № 7 „Белар. Думкі.“ (Рэд.)

[4]) Прыклад ля некатарых беларусау, (пан Шабуня і інш.) што, як нам ведама, але мала нас абходзіць, запісаліся „страха дзеля іудзейска“ палякамі... (Рэд).

[5]) Гл. № 19 „Dz. Wil.“.

[6]) Хто знаем бліжэй з віленскімі сьвядомымі беларусамі, асабліва у апошнія, часы, той ведае, што „зьмесьціць на аднэй канапцы“ іх ня можна; кожды сьвядомы беларус ужывае беларускую мову. (Рэд.)

## ПАМЯТКА.

*(Гл. № 8).*

Ня гледзячы на цяжкія варункі бальшавіцкага панаваньня, работа ні прыпынялася. Дзеля правядзеньня ў жыцьцё пастановаў Зьезду Рада выдзеліла з паміж сябе Спаўняючы Камітэт, каторы быў папоўнены прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасьцяў, мяшкаючых на Беларусі. Комітэт пасылаў сваю дэлегацыю на міравыя перагаворы ў Бярэсьце, але яна, па загаду з Петраграду, ня была прапушчана цераз фронт. Калі, пры надыходку гэрманскага войска к Менску, бальшавікі ўцяклі з гораду, то Спаўняючы Камітэт, зьдзяйсьняючы волю Зьезду, узяў кіраўніцтва краем ў свае рукі і утварыў 19 лютага 1918 г. урад—Беларускі Народны Сэкрэтарыят, што было абвешчана народу Устаўнаю Граматаю ад 21-го лютага т. г.

Вайсковая Рада, іступаўшая ў той час у Менску, так сама разагнаная і арыштованая бальшавікамі, ачысьціла Менск ад астаткаў бальшавіцкіх элемэнтаў і усю сваю чыннасьць аддала Народнаму Сэкрэтарыяту, каторы быў затурбованы устанаўленнем парадку і нормальнага жыцьця ў краю. З гэтаго часу Спаўняючы Камітэт, злучаны з Вайсковай Радай і папоўнены прадстаўнікамі гарадзкіх і земскіх установаў, адтрымаў найменне Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

У час акупацыі Менску гэрманскімі войскамі, 25-го лютаго у памяшканне Народнаго Сэкрэтарыяту прышоў гэрманскі комэндант і збройнай сілай забраў памяшканьне Сэкрэтарыяту і скінуў беларускі нацыянальны сьцяг. У памяшканні быў зроблены обыск, забраны грошы і разагнаны служачыя. Народны Сэкрэтарыят зрабіў запытанне гэрманскім акупацыйным уласьцям, на якой падставе учыніўся вышэйпамянёны гвалт і якія, наагул, адносіны гэрманскае улады да дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі, але адказу не атрымаў.

24-го сакавіка 1918-го г. Рада Беларускай Народнай Распублікі выпусьціла Устаўную Грамату, у каторай абвяшчала, „ад гэтаго часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчаго Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі. На моцы гэтаго трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду ўкінуць наш край у пажар вайны і падпісаць за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Распублікі мае увайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берасьцейскаго трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Вітабшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеныя беларусамі“.

Рада Беларускай Народнай Распублікі зьяўляецца адзінай законнай і правамочнай прадстаўнічай беларускаго народу і ўсяго яго краю. Папоўненая Статутам 9-го кастрычніка г.г. прадстаўнікамі ад усіх, істнуючых на Беларусі, грамадзянскіх, культурна-прасьветных, рэлігійных і профэсіянальных организацыяў, яна тым самым стала і правомошным Краёвым Органом да скліканьня Беларускаго Устаноўчаго Сойму. Мы спадзяёмся, што эўропейскія народы на міравом конгрэсе ня будуць перашкаджаць дзяржаўнаму будаўніцтву Беларусі і дапамогуць Беларускаму народу ў яго жаданьні культурна-нацыянальнай і дзяржаўнай самабытнасьці, страчанай толькі дзякуючы цяжкім гістарычным умовам. Беларускі народ, палажыўшы пачатак дзяржаўнаму будаўніцтву сярод усход-

генэральнага камісара ўсходніх зямель, п. Осмалоўскага, была дэлегацыя гродзенскай цэнтральнай беларускай Рады і падала яму мэморыял аб беларускім нацыянальным руху, аб палажэньні і патрэбах беларускага народу. Маршалак дэлегацыі п. Алексюк ад імя Рады выказаў жаданьне завязаць прыязныя адносіны да польскага ўраду і народу, сьцяг прозьбаў аб грамадзянскай, школьнай і харчавай патрэбах. Генэральны камісар адказаў, што польскай палітыцы дае і будзе даваць кірунак адозва Глаўнакамандуючага і што ўсе патрэбы беларускага дый кожнага іншага насяленьня будзе спаўняць як сьлед. Самай важнай справай будзе, каб урад дапамог галоднаму насяленьню, і магчыма, штокалі трэба будзе, будуць паменьшаны харчавыя порцыі ў Польшчы, каб толькі ратаваць ад голаду насяленьне ўсходніх межаў. Дэлегацыя засталася вельмі здаволена рэзультатамі гутаркі."

### Арганізацыя „Усходніх Земляў“.

Польская „Gazeta Warszawska“ піша, што цэльны урад так званых „Усходніх Земляў“ адлучаецца ад кампэтэнцыі Рады Міністраў і мае быць сканцэнтраваны у руках генеральнага камісcара, залежнага толькі ад Начальніка дзяржавы; вынятак зроблены толькі ля паветаў Беластоцкага, Сакольскага ды Бельскага, каторыя ужо прылучаны да Польшчы.

### Проціў-польскія выступленьня беларусаў.

Так называе газэта „Kurjer Polski“ (№ 117 з 13 мая) стацьці беларускіх газэт, выходзячых у Горадне. Газэта „Беларусь“ называе заняцьце Горадна новай аккупацыяй і піша, што уціск, які будзе пасьля прылучэньня Горадзеншчыны да Польшчы, знойдзе свой адпор у беларусаў. Сацыялістычная газэта „Бацькаўшчына“ піша, што уступленьне польскіх войскаў у Горадзеншчыну — гэта акт гвалту і што гэткім чынам зробіцца у нас новыя Балканы; у канцы газэта прызывае беларусаў гуртаваць свае сілы.

### Унія.

„Kurjer Polski“ піша:

«П. Падэрэўскі раіў з Пілсудскім у справе Літвы. З гэтае прычыны гаманілі, быццым разглядаліся розныя праэкты, між іншым, каб глаўную ўладу ў Польшчы ўзяў п. Падэрэўскі, каб вярнуць даўную ідэю ўніі Польшчы з Літвою у асобе адзінага Дзержаўнага Начальніка — Пілсудскага. Шмат веры даваць гэтым усім гутаркам нельга“.

### Жалоба у Германіі.

БЕРЛІН, 10-га мая. С прыгоды цяжкіх варункаў міра урад абвесьціў аднадзенную жалобу па ўсёй Германіі. Усе тэатры і кінематографы будуць зачынены. Уся Германія у гэты дзень будзе агорнута вялікаю жалобаю.

### Пратэст.

Бэльгійскі урад запратэставаў праз сваіх дэлегатаў у Парыжы проціў таго, каб нямецкая рэспубліка ўжывала як нацыянальныя колеры: чырвоны — залаты — чорны, якія ужывае Бэльгія.

### Немцы пакінуць Літву і Латвію.

Эрцбэргер заявіў ген. Нуданту, што немцы хутка пакінуць Літву і Латвію.

### Еўе і Оліта.

Літоўскае войска заняла два важныя жалезнадарожныя пункты — Еўье і Оліту. Станцыя Еўье ляжыць між Вільняй і Коўнай, а Оліта на дарозе з Вільні ў Сувалкі (на беразі Нёмна.)

### Канстытуцыйная дэкларацыя польскага ураду.

На апошнім пасяджэньні канстытуцыйная камісія сойму аднагалосна высказала пажаданьне, каб урад не адкладаючы апрацаваў праект канстытуцыйнае дэкларацыі. Гэтакую дэкларацыю польскі урад ужо зрабіў.

У пункце першым, дзе гаворыцца аб адносінах Польшчы да іншых народаў, напісана між іншым гэтак:

„... З суседнімі народамі, з каторымі народ польскі супольную цярпеў нядолю, Рэчпосполітая хоча адновіць даўныя вузлы ў духу вялікой ідэі ягеллонскае эпохі ды ў духу сучасных паняцьцяў аб нацыянальнай незалежнасьці і дэмократычным ладзе ў народзе злучаным з Польшчай...“

## У Віленскай Беларускай Гімназіі.

Па Вільні нехта пусьціў чуткі, што Беларуская гімназія ня будзе больш істнаваць, бо ў яе няма грошай, каб плаціць пэнсію вучыцялём і служачым гімназіі.

Рэдакцыя, ня верючы гэтым злым чуткам, дзеля ўсякага прыпадку зьвярнулася да адміністрацыі гімназіі, каб дастаць там інфармацыю.

Нам адказалі, што ня можа быць і гутаркі, каб гімназія зачынілася, бо дзеля гэтага няма ніякіх прычын. Што датычыць да грашавых спраў, гімназія ў гэтым пытаньні стаіць на цьвёрдам фундамэнце. Яна дастае ад вучахчыхся плату, каторая паступае даволі акуратна. Так сама,—калі-б для паддзяржаньня гімназіі была патрэбна падмога, дык яна будзе дадзена із беларускіх нацыянальных кругаў. Агулам кажучы, пытаньне, аб каторым дасужыя брахуны пушчаюць па месьце плёткі (зьбіраючыся, можа, скарыстаць з рэзультатаў плётак для свае карысьці), зусім ня мае ніякага грунту.

## У ВІЛЬНІ.

### Помач.

Віленскі Жыдоўскі Камітэт „Екопо“ асігнаваў грошы мясьцечкам, што мелі шкоду і страту у часе апошніх падзей. 5.000 м. асігнована Немэнчыну, 10.000 марак Навагрудку, асобная сума будзе асігнована Лідзе.

### Знайшлі браварок.

На Стэхфанскай вуліцы паліцыя знайшла самагоначны браварок і арыштавала яго гаспадара Гардона. Калі яго вялі па вуліцы, натаўп людзей злосна крычаў, што там ёсць яшчэ шмат браваркаў і дзеля таго цана на збожжа паднялася на 20—30%.

### Вучыцельскія курсы.

Пры беларускай гімназіі сёлета ўлетку маюцца быць адкрытымі каротка-срочныя курсы, на каторыя будуць прыймаца тыя, хто захоча працаваць у беларускіх школах.

Падробнасьці ў гэтым пытаньні, каторым займаецца Віленская Беларуская Рада, дадзём потым.

### Пэнсіі б. савецкім служачым.

Есьць пэўныя весткі з Магістрата, што пэнсіі (на 1-е мая) б. савецкім служачым могуць быць выплачаны не вышэй за 40% таго, колькі належыцца, і пасьля злічы польскай ўладзе бальшавіцкіх авансаў тымі, кто іх мае.

### Прыехаў пан камісар Осмалоўскі.

З Варшавы прыехаў камісар „Усходніх Земляў“ пан Осмалоўскі.

Цяпер ёсьць надзея, што галадаючых прыезджых ужо выпусьцяць з Вільні бяз доўгай і дарэмнай маруды.

### Мытарствы.

Каб дастаць перапуск на выезд з Вільні, абавязкова трэбуецца прылажыць да заявы у Камісарыят места (Юраўскі, 36) фатаграфічную картачку. Паперы ідуць у палявую жандармэрыю (Юраўскі, 8) а потым у ваенную камэндатуру (Вялікая, 54).

### Цэны.

Польская ўлада ізноў падцьверждае, што у магазінах і крамах павінны быць паказаны цэны на тавар у марках.

### Кярэнкі.

Наўпрэкі загаду, кярэнка-дваццатка ідзець у віленскіх сьпекулянтов за 7 руб.

## Харчы.

### Беларуская народная кухня.

Кухня пакуль што варыць толькі сьнеданьне (пшонную зацірку).

Порцыя каштуе паўрубля.

Як будзе мебель і посуд, пры кухне адчыніцца страўня.

У першы дзень кухня магла даць толькі 200 порцыяў.

Страўнікі дзякуюць за клопат пп. Камінскай і Юрэвіч.

### Мука.

Выдача чароднага майскага пайка (12 х. на душу) задзержываецца марудлівасьцю цантральнага хлебнага бюро у разсылцы карт на участках і нядбайнасьцю некаторых домаўласьнікаў у даставаньню карт.

### Саланіна.

Транспарт саланіны, што прывезены у Вільню, пойдзе сьперша на здавальненьне інтэнданцкай патрэбы, а затым уже для ўсіх жыхараў.

### Цукар.

Цукар прывязлі у Вільню *жоўты* і мяркуюць браць за яго ня 6, а 5 рублёў ці перарабіць у монпасье.

Пакуль што ёсьць цукру 2 вагоны.



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі

Друкарня „Промень“, Ігнатаўскі, 5.